www.nv-online.info

№ 24 (3867)

28 сакавіка 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Лішнія вочы

*Выбары дэпутатаў мясцовых Саветаў XXVII склікання адзначыліся беспрэцэдэнтным ціскам на незалежных назіральнікаў. Іх пазбаўлялі акрэдытацыі, абвінавачвалі ў спробах фатаграфаваць і здымаць на відэа тое, што адбывалася. **Дзяніса Садоўскага**, даверануую асобу кандыдта ў дэпутаты **Максіма Гацака**, каардынатара назіральнікаў ад аргкамітэта па стварэнні партыі БХД, увогуле схапілі і адвезлі ў ізалятар на Акрэсціна. У судзе "высветлілася", што Дзяніс "перашкаджаў працаваць сябрам камісіі". Ён, аказваецца, крычаў і размахваў рукамі...*

"Народная Воля" сабрала сведчанні некаторых назіральнікаў.

## «Няма чаго ім тут рабіць...»

У Магілёве назіральніцу **Наталлю Шадун** з 72-га выбарчага ўчастка Віленскай акругі забірала... "хуткая дапамога". Адвезлі адразу ў бальніцу, дзе яна знаходзіцца і цяпер. Наталля распавяла "Народнай Волі":

— *Участкі для галасавання месціліся ў інтэрнатах. Каменданты ўвесь час умешваліся ў працэс: бралі спісы, вывучалі, звяралі іх са сваімі... Ясна, што яны адказвалі за яўку студэнтаў і правяралі, хто прыйшоў, а хто не. Я ўдакладніла, ці з'яўляюцца гэтыя асобы сябрамі камісіі альбо назіральнікамі? Высветлілася, што не з'яўляюцца. Папярэдзіла, што буду падаваць скаргу, і ў апошні дзень датэрміновага галасавання камендантаў ужо не было. Але ў дзень выбараў прыйшоў адзін камендант і сеў за стол. Я запыталася ў старшыні: "Што, гэты чалавек стаў членам камісіі?.." Пасля чаго каменданта выдалілі. Але ўжо другому спісы вынеслі проста ў калідор. Толькі трэба ж было і мне ў той момант таксама выйсці ў калідор! Я адразу папрасіла старшыню патлумачыць сітуацыю. Ён сказаў, што гэта не мая справа — якія спісы, каму і чаму ён дае... Карацей, сітуацыя напалялася. Калі ж зачынілі памяшканне для падліку бюлетэняў, старшыня нават не стаў агалошваць, колькі чалавек прагаласавала па асноўным спісе, колькі — па дадатковым. Чаму? Адказу я так і не пачула. Замест гэтага пайшлі рэплікі кшталту: "Час адправіць адсюль назіральнікаў! Няма чаго ім тут рабіць! Перашкаджаюць людзям працаваць!.." Так нахабна, так адкрыта ўсё рабілася, што маё сэрца не вытрымала. Я толькі паспела папрасіць у суседкі валідол і страціла прытомнасць. Са мной такое ўпершыню здарылася.*

## Пазбавілі акрэдытацыі

**Лявон Гаравы** назіраць за ўсім працэсам галасавання на выбарчым участку №5 Гагарынскай акругі ў Гарадку Віцебскай вобласці не змог. Не дазволілі. Пазбавілі акрэдытацыі. Хаця ён быў не проста назіральнікам, а даверанай асобай кандыдата **Алены Дайнэка.**

— *У першы дзень датэрміновага галасавання а сёмай вечара старшыня не дазволіў мне паглядзець, як будуць заклейваць скрыню. Сказаў, каб я блізка не падыходзіў і заставаўся на сваім месцы. Потым ён забараніў мне зрабіць фотаздымак копіі пратакола з вынікамі датэрміновага галасавання. Прычым фізічна забараніў: стаў наперадзе і закрыў фотакамеру. Ніякімі нормамі заканадаўства ён, натуральна, сваю пазіцыю не аргументаваў. Але пад пагрозай фізічнага гвалту ад міліцыянера я вымушаны быў пакінуць участак. Толькі ў спіну мне старшыня крыкнуў, каб я на наступны дзень прыйшоў на пасяджэнне камісіі. Я прыйшоў. Там мне заявілі, што я сваімі дзеяннямі перашкаджаў іх рабоце і пазбавілі акрэдытацыі.*

## Запланаваны спектакль

**Галіна Каржанеўская** была назіральніцай на ўчастку №53 20-й Чыгуначнай акругі Мінска. Немаладую жанчыну, вядомую паэтку таксама проста выдалілі з участка:

— *Быў дзень датэрміновага галасавання, я прыйшла на паўгадзіны раней і ўбачыла, што ў дзверы, якія адчыніў дзяжурны міліцыянер, заходзіць нейкі чалавек у цывільным. Яны зачыніліся ў тым самым кабінеце, дзе захоўвалі скрыні для галасавання. Да скрыняў ніхто не павінен мець доступу, тым больш нейкія пастароннія людзі. Такога не павінна быць, і я падала скаргу ў акруговую камісію. На наступны дзень сябры камісіі проста з крыкам сталі абурацца маім учынкам: "Паглядзіце, якія людзі на свеце бываюць!.." і ўсё такое. Калі разглядалася мая скарга, мне нехта пазваніў па мабільным, я адказала літаральна тры словы: "Прабачце, зараз не магу размаўляць". Гэтага ім хапіла. Напісалі, што я "паводзіла сябе з выклікам". Спачатку нашы лічбы не адрозніваліся ад тых, што мелі "іхнія" назіральнікі: яны налічылі, што прыйшло 67 выбаршчыкаў, і я таксама. А ўжо напрыканцы пятніцы, у перадапошні дзень датэрміновага галасавання, быў разыграны сапраўдны спектакль. У мяне з сабою была газета. Раптам мяне акружылі праўладныя назіральнікі, сябры камісіі і пачалі цікавіцца: "Што за газета, як часта выходзіць, дзе яе можна купіць?.." Тут жа прыбег нейкі "таварышч", падключыўся да ціхай размовы, і праз пару хвілін ужо было напісана, што я сваімі размовамі перашкаджала камісіі працаваць. Раніцай у суботу мяне пазбавілі акрэдытацыі. Тое, што гэта было зроблена па плане і дамоўленасці, для мяне цалкам зразумела. Бо ўжо ў пятніцу лічбы незалежных назіральнікаў і праўладных сталі істотна адрознівацца: у незалежнага назіральніка — 70 чалавек, у праўладнага — 270!*

**Любоў ЛУНЁВА.**

АКТУАЛІІ

*Святлана КАЛІНКІНА*

# Блохі заядуць

**Не прайшло і тыдня, а афіцыйныя дадзеныя пра тое, як прайшлі ў Мінску выбары ў мясцовыя Саветы, ужо нават адшукаць цяжка. Па крайняй меры з сайта Мінгарвыканкама нават раздзел пра выбары паспяшаліся сарамліва прыбраць. Ды і з сайтаў большасці раённых адміністрацый — таксама. Прычым заклікі прыйсці на выбары засталіся (яны даўно не актуальныя), а вось вынікі...**

**Так, сталічным уладам хваліцца няма чым. Хаця фармальна выбары адбыліся, усе 57 дэпутатаў Мінгарсавета абраны. Але...**

**Арганізацыя выбараў у беларускай сталіцы выклікае нямала пытанняў. Ну, напрыклад, усе знала, чулі, што колькасць жыхароў Мінска год ад года павялічваецца. Не раз мінскія кіраўнікі хваліліся, не раз падкрэслівалі, што Мінск, у адрозненне ад іншых рэгіёнаў, не вымірае. Але калі глядзець на колькасць выбаршчыкаў у спісах для галасавання — дык сталіца вымірае, ды яшчэ і якімі тэмпамі!**

**Падчас выбараў прэзідэнта ў 2010 годзе ў сталіцы налічвалася больш за 1 мільён 320 тысяч выбаршчыкаў. А цяпер, на выбарах у мясцовыя Саветы, — 1 мільён 279 тысяч 196.**

**І гэта пры тым, што зараз удзельнічаць у выбарах мясцовых Саветаў могуць не толькі грамадзяне Беларусі, але і грамадзяне Расіі, якія маюць у нашай краіне від на жыхарства. Так што выбаршчыкаў ніяк не магло стаць менш, наадварот — нас павінна было быць значна больш. Зразумела, калі ў горадзе не адбываецца нейкая дэмаграфічная катастрофа і людзі не паміраюць, як тыя мухі...**

**Так ці інакш, але, згодна з інфармацыяй ЦВК, удзел у галасаванні прынялі 785 тысяч 43 мінчукі, ці 61,37% тых, хто меў права голасу. Гэта самы нізкі паказчык па краіне.**

**Але не за яго мінскім уладам павінна быць сорамна. Бо калі глыбей аналізаваць афіцыйныя справаздачы па выбарах, то пытанняў робіцца яшчэ больш.**

**Мы з натхненнем усім расказваем, што Мінск — еўрапейскі горад, а вось жыхары сталіцы, аказваецца, адчуваюць сябе гэтаксама, як і насельнікі нейкіх мядзведжых куткоў у глухой тайзе, адкуль нікуды не выехаць, не дабрацца. Па крайняй меры нічым іншым нельга патлумачыць, чаму людзі так баяліся, што не трапяць у дзень галасавання на выбарчыя ўчасткі, і куляй ляцелі аддаць свой голас датэрмінова.**

**У сталіцы паказчык датэрміновага галасавання аказаўся такім рэкордным, што аж... смешна. Згодна з інфармацыяй ЦВК, удзел у ім прыняў 419.761 выбаршчык. Альбо 53,5%!!!**

**У цэлым па краіне датэрмінова прагаласавалі (згодна з афіцыйнымі дадзенымі) 32% выбаршчыкаў. Вельмі шмат! Проста неверагодны паказчык, рэкордны нават для нашых, мякка кажучы, спецыфічных выбараў! Паказчык, які немагчыма нічым разумным патлумачыць, бо ў краіне і вёсак такіх аддаленых няма, каб такая велізарная колькасць людзей у дзень галасавання не магла дабрацца да выбарчага ўчастка.**

**Што ж тады ў сталіцы адбылося? Што здарылася?**

**Можа, мінчане баяліся, што ў дзень выбараў масава з глузду з'едуць і не будуць ведаць, як вылезці з кватэр?**

**Можа, яны баяліся, што горад захопяць дыверсанты і нікому не дадуць прагаласаваць?**

**Можа, быў прагноз сіноптыкаў на буру, цунамі, смерч, ураган і тайфун адначасова?..**

**Ясна, што нічога надзвычайнага не чакалася і не прагназавалася. І ніхто з незалежных назіральнікаў не бачыў аніякага ажыятажу ні падчас датэрміновага галасавання, ні ў асноўны дзень выбараў. А што напісана ў афіцыйных пратаколах? Ну, вы самі разумееце, — папера ўсё сцерпіць.**

**Можна верыць, што палова мінчан прагаласавала датэрмінова, таму ў дзень галасавання ўчасткі былі амаль пустыя. Можна не верыць, бо ва ўсім сваім атачэнні, сярод суседзяў, калег, знаёмых, радні я не знайшла чалавека, які на гэтыя выбары хадзіў і галасаваў.**

**У любым выпадку выбары прайшлі — як іх і не было. Ні спрэчак, ні дыскусій яны не выклікалі, новых прозвішчаў, яркіх асоб не выявілі, надзей на лепшае не далі.**

**Я вось, ідучы на працу, сустрэла знаёмага вайскоўца-адстаўніка.**

**— Ну што, схадзілі на выбары? — пытаюся.**

**— Не хадзіў і хадзіць не буду! — адказвае ён. — Бо добра ведаю, што гэта за выбары і што гэта за дэпутаты. Адзін такі народны абраннік жыў са мною ў адным пад'ездзе. Толькі ён на першым паверсе, а я — на апошнім. Выбіралі яго — думалі: хоць для нашага — для свайго — дома нешта зробіць. Справа ў тым, што ў нас сапраўднае бедства з падвалам. Затоплівае яго. Вада стаіць месяцамі, усё мокрае, усё гніе, нават блохі ад усяго гэтага па доме пайшлі. І ніхто нічога не робіць: ЖЭСу — да лямпачкі, ЖРЭА — да лямпачкі, выканкам толькі адпіскі шле... І вось іду я неяк і сустракаю гэтага суседа-дэпутата. Ён кажа: "Мікалаевіч, ну схадзіце вы куды-небудзь, ну дабівайцеся, каб нешта з гэтым падвалам рабілі. Жыцця ж няма! Да вас на апошніх паверхах яшчэ не дайшло, а мяне, на першым, ужо блохі заядаюць". Я паглядзеў на яго ды і кажу: "Дык мы ж да цябе і павінны ісці са сваёю скаргаю. Ты ж улада, ты ж дэпутат! Няўжо самога блохі заядуць, але ўсё роўна маўчаць ды цярпець будзеш?"**

**Але ж і праўда: будзе маўчаць і цярпець. Бо дэпутатам у нас не для таго "давер аказваюць", каб яны праблемы ўздымалі. Наадварот: каб, нягледзячы на тых жа самых блох ці вошай, дружна адказвалі: "Няма праблем!"**

ПРАГНОЗЫ



# Дэвальвіруемся?

*Старшыня праўлення "Белгазпрамбанка" **Віктар Бабарыка** мяркуе, што Нацыянальны банк Беларусі не зможа доўга ажыццяўляць жорсткую падтрымку курса беларускага рубля ва ўмовах дэвальвацыі нацвалют у суседніх з Беларуссю краінах.*

*Дык якім будзе курс рубля ў адносінах да долара ў бліжэйшы час?*

Аб гэтым "Народнай Волі" распавядае аналітык афіцыйнага партнёра "Альпары" ў Мінску **Вадзім ІОСУБ.**

*"Плаўная дэвальвацыя ў Беларусі ўжо ідзе,* — адзначае эксперт. — *Пытанне зараз у другім: гэтая плаўная дэвальвацыя працягнецца ці будзе рэзкае падзенне рубля? І ў гэтага пытання важныя складаючыя. Па-першае: што хацелася б уладам і якія для гэтага ёсць рэсурсы? Відавочна, што ў абвале нацыянальнай валюты ніхто не зацікаўлены. Але асноўная праблема — дэфіцыт бягучага рахунку. І будзе рэзкае абясцэньванне рубля альбо не, залежыць ад таго, ці ўдасца знайсці валюту. Магчыма, будзе чарговы крэдыт з боку Расіі ці нейкія іншыя пазыкі. Як альтэрнатыва — можна прыцягнуць у краіну валюту за кошт прыватызацыі маёмасці".*

Па словах аналітыка, казаць аб тым, што рэзкая дэвальвацыя непазбежная, нельга, бо ў плаўным рэжыме яна можа працягвацца да бясконцасці, калі ўдасца прыцягваць знешнія датацыі.

*"Калі ж не будзе грошай і палітычнай волі на прыватызацыю дзяржаўнай маёмасці, то ў такім выпадку рэзкая дэвальвацыя — рэальнасць",* — адзначае Вадзім Іосуб.

**Алесь СІВЫ.**

РЭДКІ ВЫПАДАК

# Дэмакратыя, аднак...

*Старшыня Шклоўскага райсавета 26-га склікання Міхаіл Паўловіч не абраны дэпутатам Шклоўскага раённага Савета 27-га склікання.*

Міхаіл Паўловіч балатаваўся кандыдатам у дэпутаты райсавета па Школьнай выбарчай акрузе №12 горада Шклова і, згодна з афіцыйнай інфармацыяй участковай выбарчай камісіі, саступіў па выніках падліку галасоў сваёй канкурэнтцы — намесніку дырэктара ДУА "Цэнтр карэкцыйна-развіваючага навучання і рэабілітацыі г.Шклова" Людміле Анікеевай. За Людмілу Анікееву аддалі свае галасы 269 выбаршчыкаў, за Міхаіла Паўловіча — 173.

Кандыдат эканамічных навук са Шклоўскага раёна Пётр Мігурскі кажа: тое, што дэпутатам не абралі раней судзімага старшыню Шклоўскага райсавета 26-га склікання Міхаіла Паўловіча, можна лічыць перамогай дэмакратычных актывістаў Шклоўскага раёна.

*"На працягу амаль месяца мы змагаліся за тое, каб інфармацыя пра судзімасць Міхаіла Паўловіча была данесена да выбаршчыкаў,* — распавядае Пётр Мігурскі. — *Мы звярталіся па гэтым пытанні ў выбарчую камісію, пракуратуру, суд і райвыканкам. Згодна з маёй інфармацыяй, шклоўскія раённыя ўлады нарэшце самі зразумелі ўсю недарэчнасць сітуацыі, калі раней судзімы чалавек з'яўляецца старшынёй райсавета. Яшчэ да дня "выбараў" было прынята рашэнне, што Міхаіл Паўловіч нават не стане дэпутатам райсавета новага склікання. Так яно і атрымалася па выніках галасавання, і я лічу, што ў гэтым ёсць вялікая заслуга дэмакратычных актывістаў Шклоўскага раёна".*

НУ І НУ!

# Як у Паўночнай Карэі

*Як паведаміла Кармянская раённая выбарчая камісія, яўка выбаршчыкаў на выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў 23 сакавіка склала 98,26%.*

Гэта значыць, што ў раёне амаль не аказалася людзей, якія хворыя, непрытомныя, апалітычныя альбо з'ехалі ў санаторый, на заробкі, на юбілей цешчы. Такі паказчык смела можа прэтэндаваць на тое, каб быць занесеным у Кнігу рэкордаў Гінеса.

Цікава, што выбары ў раёне прайшлі дэмакратычна, але ва ўсіх акругах — на безальтэрнатыўнай аснове. Як, дарэчы, і ў большасці раёнаў Гомельскай вобласці.

Дарэчы, увогуле Гомельшчына — гэта рэгіён, які, напэўна, пераняў вопыт правядзення свабодных выбараў у Паўночнай Карэі.

Так, у Брагінскім раёне, паведамляе райвыканкам, яўка склала 95,15%.

Веткаўскі райвыканкам заяўляе аб яўцы 93,4%.

Жыткавіцкая раённая газета "Новае Палессе" піша пра яўку 89,39%. Таксама, паводле інфармацыі выдання, больш як на 20 сельскіх участках яўка склала 100%.

Паводле інфармацыі Гомельскай абласной выбарчай камісіі, у пяці раёнах вобласці яўка склала больш за 90%, а ў цэлым па вобласці на ўчасткі прыйшло 80,88% выбаршчыкаў.

Хто болей?

ПАД ГРАДУСАМ

# Чакаецца мокры снег

Мы ўжо прызвычаіліся да цяпла. Але. "Павольна, пачынаючы з паўночнага ўсходу Беларусі, умовы надвор'я стане фарміраваць халаднаваты шырокі антыцыклон з цэнтрам над Фінляндыяй. Пад абаронай антыцыклону ападкаў не чакаецца. Вецер паўночна-ўсходні ўмераны", — адзначыла галоўны сіноптык Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Людміла Парашчук.**

Паводле яе слоў, у бліжэйшыя выхадныя антыцыклон адправіцца з Фінляндыі праз Беларусь ва Украіну. Істотных ападкаў не чакаецца. Тэмпература паветра ноччу будзе ад мінус 6 градусаў па паўночным усходзе да плюс 2 па паўднёвым захадзе краіны. Днём тэрмометры пакажуць 4—9 градусаў цяпла, па захадзе Брэсцкай і Гродзенскай абласцей — 10—13 градусаў вышэй за нуль.

У апошні сакавіцкі дзень чакаецца паступленне на Беларусь халаднаватых вільготных паветраных мас з поўначы Балтыйскага мора. Месцамі пройдуць кароткачасовыя ападкі з перавагай мокрага снегу.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

*Борис ЖЕЛИБА,*
*профессор, доктор экономических наук*




# Мертвая привязка

По мере того как Россия "осваивает" оккупированный Крым в военном и хозяйственном отношении, Запад разворачивает против нее, как и обещал, экономические санкции. Помимо визовых ограничений и заморозки активов ряда высокопоставленных лиц российской власти для ряда значимых российских банков, среди которых банки "Россия" и "Собинбанк", были заблокированы хорошо знакомые белорусам международные системы Visa и Mastercard. Владельцы этих банков, как сообщил Минфин США, лично близки к Путину.

Многие аналитики сходятся на том, что вводимые против России экономические санкции не только скажутся на белорусской экономике, которая полностью зависит от российской, но и больно по ней ударят. В том числе и по населению.

В каком же состоянии находится с начала года наша экономика, какой у нее запас финансовой прочности, чтобы достойно встретить возможные ненастья?

ВВП Беларуси за январь-февраль снизился на 1,6%, производство промышленной продукции — на 5,5%. Запасы готовой продукции на складах предприятий после некоторого снижения вновь выросли и установили исторический рекорд — 33,9 трлн рублей, что составляет 84% среднемесячного производства (при норме 50%). Выпуск сельхозпродукции сократился на 4%, инвестиции в основной капитал уменьшились на 18,7%. Инфляция при плане 11% к концу года уже составила 3,6%. Дефицит счета текущих операций платежного баланса страны, который отражает степень сбалансированности финансовых потоков Беларуси с внешним миром, по итогам 2013 года достиг 7,3 млрд долларов и вырос по сравнению с 2012 годом в 4 раза. Он составил 10,2% ВВП при максимально допустимом значении 5%. Результаты счета текущих операций определяются глубоко пассивным торговым балансом страны. За прошлый год внешние обязательства резидентов Беларуси также увеличились на 7 млрд долларов. Отсюда можно считать, что дефицит текущего счета финансировался за счет новых заимствований. Начиная с прошлого года по сегодняшний день золотовалютные резервы сократились с 8,1 до 6,1 млрд долларов. Они расходовались на поддержку курса белорусского рубля, с тем чтобы не допустить его обвальной девальвации, и на погашение внешних и внутренних валютных долгов государства.

Другими словами, белорусская экономика, как всегда, "в форме" и готова во всеоружии встретить летящие осколки от экономических ударов Запада по России. Квартал, который Лукашенко в который раз отвел правительству на исправление ситуации, истекает. А ситуация только усугубляется... Что же ждет Беларусь в ближайшей перспективе?

В 2014 году при стоимости нефти 100 долларов за баррель Россия уже секвестирует (сокращает) расходы на здравоохранение и социальное обеспечение, но при аннексии Крыма будет вынуждена потратить дополнительно 2—3% бюджетных средств на эти же цели для полуострова. В инфраструктуру Крыма придется вбухать не один десяток миллиардов долларов. Одновременно Россию ждет рост стоимости корпоративных заимствований на международных рынках капиталов. При резком снижении мировых цен на нефть и газ, которое могут устроить США, арабы и вернувшийся на этот рынок Иран, Россия в перспективе 2—3 лет может потерять до 20% экспорта газа и до 25% экспорта нефти. У российского бюджета уже начнутся проблемы при падении мировой цены на нефть ниже 100 долларов за баррель. А при цене ниже 80 долларов начнется его разрушение. Существенное падение импорта из стран Евросоюза, особенно из Германии, нанесет ущерб развитию высокотехнологичных производств. Годовой объем российского экспорта достигает почти 600 млрд долларов в год, импорта — около 500 миллиардов. Но Россия больше зависит от Запада, чем наоборот.

На последнем саммите страны, входящие в "большую семерку", приняли решение радикально снизить зависимость Европы от российских энергоносителей. "Газпром" в 2013 году поставил в Европу 138 млрд куб. метров газа. Это 27% ее потребности. Запланировано в короткие сроки увеличить поставки сжиженного природного газа (в основном из Азии), добычу собственного газа в Норвегии и Нидерландах и реализовать возможности по экономии потребления газа. Комбинация этих мер, оцениваемая в 3,9 млрд долларов, что составляет всего 0,02% европейского ВВП, позволит свести к минимуму зависимость от российских поставок. А упущенная выручка России может составить более 48 млрд долларов, или 2,2% от ВВП страны.

Приток прямых иностранных инвестиций в Россию в 2013 году составил порядка 80 млрд долларов. Но ее действия в Крыму дали четкий сигнал инвесторам: российское руководство сегодня просто непредсказуемо. Серьезное снижение прямых иностранных инвестиций, отток капитала из страны ударят по среднесрочным и долгосрочным перспективам российского экономического роста. Если российским банкам и компаниям будет закрыт доступ к финансовым системам США и Западной Европы, как это было сделано в отношении Ирана, последствия для экономики России могут стать губительными. В дискуссии на Европейском совете по введению дальнейших экономических санкций против России все 28 глав государств и правительств ясно заявили, что при необходимости готовы заплатить и свою цену за то, чтобы международное право уважалось хотя бы в Европе.

*(Окончание на 2-й стр.)*

ПОГЛЯД

# Што ёсць здрада?

*Не ўсё яшчэ з вадой сплыло.*
*Пацвердзіць горад і сяло.*
*Было!..*
*Хто ў лес ішоў з чырвоным бантам,*
*А хто хлеб-соль нёс акупантам.*
*Таму — даволі пра парады.*
*Мяне хвалюе тэма здрады.*
*Яе пажоўклыя старонкі.*
*Яе сучасны выраз тонкі.*
*Адкуль і як магло адбыцца,*
*Што свой з сваім быў змушан біцца?*
*Ні спрэчкі даўнія, ні звады*
*Былі падставаю для здрады*
*Не за кумпяк і яйкі ўсмятку*
*Служылі "новаму парадку".*
*Хаця былі, прызнацца трэба,*
*Што гаўкалі за лусту хлеба*
*І за ламаны фрыцаў грош*
*Гатовы пасвіць былі вош.*
*А большасць — вось дзе грос-кірунак —*
*Свой хцівы зводзілі рахунак...*



У аснове здрады ляжаць карыслівыя інтарэсы. 70 працэнтаў адшчапенцаў усіх часоў і народаў — гэта хіжыя ненажэрныя тыпы. Да такой высновы прыйшлі нямецкія даследчыкі.

Трапляюцца, праўда, і "ідэйныя" здраднікі. 19 ліпеня 1960 года савецкі палкоўнік А.Пянькоўскі пісаў новым гаспадарам: *"Няхай справядлівасць ідэалаў і мэт, якім я цалкам сябе аддаю, дапаможа нам у будучым".* Цікавая дэталь: згоду на вярбоўку Пянькоўскага даў псіхолаг, які па заданні МІ-6, знешняй разведкі Вялікабрытаніі, назіраў за Пянькоўскім у Турцыі, калі той у кампаніі знаёмцаў піў... каву. Правільна "прачытаная" манера піць каву — і дазвол на вярбоўку "аб'екта" быў атрыманы. СССР панёс шматмільярдныя страты.

Другі "ідэйны" адступнік — амерыканскі перабежчык Э.Сноўдэн. Той-сёй лічыць, што раскрытыя ім факты татальнай слежкі нашкодзілі іміджу ЗША. Але гэта ўсё балбатня і прапаганда: наадварот, яны толькі падкрэслілі дамінуючую ролю ЗША ў свеце.

Тэхнічныя магчымасці Агенцтва нацыянальнай бяспекі, дзе працаваў Сноўдэн, дазваляюць ЗША кантраляваць размовы 5 мільярдаў зямлян. Для чаго? Які матэрыял для аналізу могуць даць званкі хатніх гаспадынь і балбатня падлеткаў? Навошта праслухоўваць такую колькасць людзей? Гэта не параноя, не шпіёнаманія. Гэта цвярозы разлік. 5 мільярдаў "праслушак" — і планета ў кішэні. Сацыяльныя стасункі, спажывецкія настроі, успрыняцце поп-культуры... Бясконцы пералік палітычных, эканамічных, псіхалагічных складнікаў. І самае важнае — пастаянны маніторынг праўладных эліт. Ва Украіне не было б Майдана, калі б прэзідэнт Януковіч, прэм'ер-міністр Азараў, генеральны пракурор Пшонка і чэлядзь не скалацілі, карыстаючыся службовым становішчам, казачнага багацця і па факце не сталі здраднікамі народа.

Зараз афіцыйныя расійскія журналісты палохаюць свет прывідам Сцяпана Бандэры. Былыя адданыя служкі Рублёўкі і Куршавеля забыліся, як танкі ў Маскве расстралялі законна абраны парламент. Лічу, што маю права на такі напамін, бо ў кастрычніцкіх падзеях 1993 года актыўна ўдзельнічаў і, зразумела, не на ельцынскім баку.

...Звернемся да сваёй гісторыі. 1970-я гады. Адно з беларускіх міністэрстваў трымала на Чарнаморскім узбярэжжы ажно шэсць прастытутак, аформіўшы іх як мантажніц высокага разраду. У спецыяльную лазню ў Мінску завезлі з Палесся дубовыя калоды і выдзеўблі ў іх персанальныя формы для адказных супрацоўнікаў Саўміна. На Гродзеншчыне партнаменклатуршчыкі аблюбавалі магутны дуб: прыбілі вінтавую лесвіцу, між галін змайстравалі пляцоўку для п'янак і ўцех з палюбоўніцамі. На Віцебшчыне пад публічны дом начальнікі прыстасавалі... бомбасховішча. У Бярэзінскім запаведніку высокапастаўленыя браканьеры стрэлілі ў спіну егеру і, мяркуючы, што ён мёртвы, спакойна працягвалі дзяліць тушу. А егер апрацаваў раны гаючым мохам, выпаўз на дарогу, і ўжо там яго падабрала спадарожная машына...

Ці былі гэтыя людзі здраднікамі краіны? Не былі.

Ці былі гэтыя людзі здраднікамі ідэі? Былі.

*Было!..*
*І зноў, як варам абліло.*
*З экрана на мяне ва ўпор*
*Глядзіць паскуднік... Прыгавор.*
*Не скажаш, што агідны твар.*
*Хутчэй звычайны экзэмпляр.*
*На месцы вочы, рот як рот.*
*І вушы не наадварот.*
*Адкуль, з якое глыбіні*
*Ўзыходзяць здрады карані?*
*Здрада — не імгненнае падзенне.*
*Не з чужых плячэй адзенне.*
*Здрада выспявае у цішы.*
*Сёння здрада — гэта стан душы.*
*Калі рыміць пабольш урваць,*
*У кут забіцца і жаваць...*
*А той, хто побач — свой жа, свой —*
*Дык аб сцяну ён галавой!*

**З арыштаваных у апошнія гады беларускіх афіцэраў-сілавікоў і наменклатуршчыкаў рознага калібру можна ўжо сфарміраваць штрафны батальён**. Барацьба з пярэваратнямі, безумоўна, справа важная, але ў маштабах краіны не лёсавызначальная. Тым больш што барацьба з карупцыяй у Беларусі вядзецца цераз пень-калоду.

## Гандляры памяццю

Сапраўдная нацыянальная катастрофа адбываецца ў духоўнай сферы. Мяркуйце самі. **Сёлета на беларускае аддзяленне БДУ было прынята 20 студэнтаў. На беларускае аддзяленне Кіеўскага ўніверсітэта — 19, Кракаўскага — 25. Лічбы як прысуд. Страляюць ва ўпор.**

І родную мову запіхнулі ў гета не замежныя акупанты. Чужая мова анексіравала беларускую са згоды мясцовых шуцманаў. Але... пры ўсёй велічы рускай мовы нічога значнага ў Беларусі на ёй не створана. Ні рамана, ні п'есы, ні аповесці, ні паэмы, ні нават песні. Гэта, як кажуць, медыцынскі факт.

Слова "дом", як і многія іншыя, аднолькава пішацца на абедзвюх мовах. Але ж дом беларуса складаўся з плашчакоў, масніц, шула, столі, гарышча, вільчака, аканіц, ложка, канапы, шафы, лавы, сенцаў, дзежкі, патэльні, апалоніка... Бурштынавы россып крэўных слоўцаў. У кожным — часцінка душы беларуса. Няма роднай мовы, няма і паўнавартаснай нацыянальнай культуры. На сусветнай класіцы доўга не пражывеш, вырасце касмапалітычная здрадная эліта. Фальклор і музеі не ўратуюць — паглыне папса.

Моўная здрада пацягнула за сабой яшчэ адно звыродства — спажывецкае стаўленне да Перамогі. Без дай прычыны перайменавалі праспект Машэрава. Усутыч з Курапатамі ўзвялі прыстанішча пад абразлівай назвай "Бульбаш-хол". Вырашылі браць тры тысячы з носа за ўзыходжанне на Курган Славы. Роўна столькі трэба плаціць за плёначныя бахілы пры наведванні бальніц...

Курган Славы абслугоўвае паўтара дзясятка чалавек. З бюджэтам напруга? Пакіньце пяток вузкіх спецыялістаў, а астатніх замяніце валанцёрамі. Вось вам і патрыятычнае выхаванне на свежым паветры, і эканомія.

У сталіцы на месцы старога музея Вялікай Айчыннай вайны хацелі збудаваць шматпавярховы "стаяк", падобны на... фалас. Ды яшчэ з падсветкай верхняй часткі. Спрабавалі падсунуць безаблічны, пазбаўлены нават намёку на беларускасць, брэнд Мінска: белыя лініі на сінім фоне. Два гэтыя "праекты", дзякуючы ў тым ліку прынцыповай пазіцыі "Народнай Волі", ажыццявіць не пасмелі.

А вось вам прыклад "гумару" афіцыйных беларускіх СМІ (цытаты на мове арыгінала): "Сидят и кушают бойцы товарищей своих... Так называемая Великая Отечественная... Павлик Матросов закрыл амбразуру дота телом своего отца..."

І нашы ідэолагі нічога гэтага не бачаць.

Навабуды-страшыдлы сапсавалі гістарычны цэнтр Мінска. Не пашкадавалі ні Траецкага прадмесця, ні плошчы Перамогі з Вечным агнём.

Гэтаксама не бачаць!

Камерцыйны наступ на святыні вядзецца маштабна. Сведчыць А.Залескі, дырэктар Мемарыяльнага комплексу "Хатынь" ("Свободные новости плюс", 2.04.2013, цытата на мове арыгінала): ***"Раньше музей посещали ветераны, туристические группы, теперь их везут на Линию Сталина**, а Хатынь посещают по зову сердца. Некоторые летят самолетом, чтобы дети увидели своими глазами Хатынь. Нет ни одного автобусного маршрута для подвозки экскурсантов — раньше был. Четверть бюджета Комплекса идет на содержание пункта милиции. Нет альбома. В музейной работе теперь следуют развлекательным тенденциям".*

...Летам 1941 года нямецкія войскі прарвалі нашу абарону ў раёне Рагачова, і Гебельс, галоўны нацысцкі прапагандыст, заявіў, што пераадолена "лінія Сталіна". Тут жа паследавала заява ад Савецкага інфармбюро: *"Германская пропаганда объединенными усилиями с главным командованием германской армии выкинули новый трюк, опубликовав 6 августа сенсационное сообщение о ходе военных действий на восточном фронте. Стремясь объяснить тяжелые потери немцев на фронте и причины длительного топтания немецко-фашистских полчищ, германская пропаганда пытается создать легенду о существовании "мощной укрепленной линии Сталина". При этом "линия Сталина" незамедлительно появляется на всем фронте — от Финского залива до Черного моря, везде, где немецкие войска, встречая упорное сопротивление Красной Армии, несут особо тяжкие потери..."*

"Лінія Сталіна" — цынічны здзек з айчыннай гісторыі, псеўдасавецкі кіч з выразным ідэалагічным падтэкстам.

## Трэцяе нашэсце аўстрыякаў

19 снежня 2013 г. у Брэсцкім гарвыканкаме адбылася пашыраная нарада, прысвечаная новай канцэпцыі Брэсцкай крэпасці. Праз пяць дзён з'явіўся матэрыял у "Комсомольской правде" в Белоруссии": *"— Чем крепость станет примечательной для туристов? — с такого вопроса доктор истории искусств, известный музейный проектировщик Дитер Богнер вместе с командой ученых и музейщиков начал презентацию концепции развития Брестской крепости. — Во-первых, тем, что вы сможете увидеть ее с высоты 80 метров — летом над крепостью будет летать аэростат для всех желающих. **Во-вторых, вы сможете попасть в памятник "Мужество": огромный памятник в виде опущенной головы воина, внутри полый, и там будут созданы тематические мультимедийные инсталляции...**"*

Богнер — аўстрыец. Сваіх спецыялістаў для такой важнай справы не знайшлося. Вось таму я і кажу пра "трэцяе нашэсце"...

Першае нашэсце аўстрыякаў адбылося ў 1812 годзе, калі аўстрыйскі корпус у складзе напалеонаўскіх войскаў увайшоў у Брэст. Другое — аўстрыйская дывізія, якая штурмавала Брэсцкую цытадэль у чэрвені 1941 года. Трэцяе, 2014 г., — аўстрыяк-музеязнавец Дзітэр Богнер.

Брэсцкую нараду і публікацыю ў "Комсомольской правде" в Белоруссии" ніхто не заўважыў, нібы размова вялася аб рэканструкцыі жывёлагадоўчага комплексу. Праходзіць месяц. 24 студзеня гэтага года амерыканская тэлекарпарацыя CNN змяшчае спіс "самых звыродлівых помнікаў свету". Пад нумарам 2 — брэсцкі манумент "Мужнасць". І зноў цішыня. Толькі праз два тыдні спахапіліся ў Расіі. Праз суткі пасля Масквы раптам "залямантавалі" ў Беларусі. Пад якім венікам "патрыёты" саюзнай дзяржавы сядзелі, як мышы, амаль 50 дзён? Не чулі пра нараду ў Брэсцкім гарвыканкаме? Дык навошта тады карміць дзясяткі тысяч спецслужбістаў і процьму ідэалагічных вертухаяў?

Колькі слоў пра CNN. Гэта вядомая ва ўсім свеце амерыканская медыякарпарацыя. Па ўменні праводзіць інфармацыйна-псіхалагічныя аперацыі яна саступае, бадай, толькі англійскай Бі-Бі-Сі. Амерыканскія тэлевізіёншчыкі лінулі алею ў агонь пасля доўгага беларуска-расійскага маўчання. Падчэквалі, правяралі на вашывасць. Калі б "саюзная дзяржава" адгукнулася на "Комсомолку" аператыўна, то CNN на "чорны спіс" не адважылася б.

Беларускіх стражаў "стабільнасці" зноўку, як і ў выпадку з плюшавым дэсантам, "звадзілі за лазню". Сутнасць жа не ў спісе CNN, а ў "новай" канцэпцыі Брэсцкай крэпасці.

Брэсцкі мемарыяльны комплекс — помнік сусветнага значэння. Хто дазволіў пракладваць дарогу праз абарончыя рвы? Якому боўдзілу прыйшло ў галаву ладзіць тут вяселлі? Хто пасяліў сюды рознага кшталту камерсантаў? Аэрастат над памежнай паласой — ці не здзек з Беларусі як дзяржавы? Чаму, нягледзячы на ўсе намаганні Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук, брэсцкія ўлады не могуць даслаць на адрас навукоўцаў папяровую версію "канцэпцыі"? Чаму ў "новай канцэпцыі" так мала сказана пра далейшае развіццё ўнікальнага для ўсёй Усходняй Еўропы Музея старажытнай архітэктуры "Бярэсце", размешчанага на тэрыторыі крэпасці? Чаму да гэтага часу аўстрыйскага "культуртрэгера" Дзітэра Богнера ветліва не папрасілі пакінуць нашу краіну? Наколькі апраўданы запланаваныя выдаткі — больш за 400 мільярдаў рублёў? Чаму няма шырокага грамадскага абмеркавання канцэпцыі на тэлебачанні і ў друку?

## Нацыі без герояў не бывае

А можа, хопіць думаць і пісаць пра вайну? Славутае "абы вайны не было" сядзіць у падсвядомасці некалькіх пакаленняў, гняце іх душы, пазбаўляе волі да супраціву. Усё так. Тым не менш Перамога, здабытая ў Вялікай Айчыннай вайне, бадай, адзінае, што аб'ядноўвае сёння беларусаў.

Вайна не толькі сутыкненне агню і металу, а перш за ўсё смяротны паядынак архетыпаў. Нацыі без герояў не бывае. Шукаць іх толькі ў далёкім мінулым — занятак для экзальтаванай кафэшнай тусоўкі.

Цяжка было апазіцыі арганізаваць некалькі пікетаў у абарону Брэсцкай крэпасці-героя? Ездзіць на баль прэзідэнтаў у Варшаву ці фатаграфавацца на фоне Капітолія з Хілары Клінтан, канечне, лацвей.

У некаторых апазіцыйных інтэрнэт-выданнях можна прачытаць, што партызанскі атрад — гэта добра арганізаваная банда, Вялікай Айчыннай вайны не было, а ішла грамадзянская...

Сярод партызан сапраўды, траляліся марадзёры і гвалтаўнікі. Але ж трыбуналамі пакарана некалькі тысяч такіх здраднікаў. Паасобных з іх, узнагароджаных ордэнамі і медалямі, адшуквалі нават пасля вайны і расстрэльвалі без жалю. Вось дзе праўда. Як праўда, што і сёння ў міліцыі, пракуратуры, іншых спецструктурах да ліха хапае набрыдзі.

...У Брэсце я гутарыў з розным людам. Самае крыўднае і страшнае, што з 46 суразмоўцаў толькі адна студэнтка і сталага веку будаўнік нешта чулі пра новую канцэпцыю крэпасці.

У сталіцы з гістарычнай памяццю не лепшае становішча. "Вечерний Минск", 31кастрычніка, 2013 г.: *"Наш корреспондент отправилась на улицу Гастелло, чтобы спросить у прохожих, в честь кого она названа... Диана, студентка, 19 лет: "Наверное, это кто-то из революционеров. Выступал на стороне белых или красных?.. Скорее всего белых, фамилия уж какая-то слишком аристократичная..." Алена, продавец, 37 лет: "Думаю, что деятель этот как-то связан с войной, ведь у нас в городе большинство улиц названо именами героев. Вероятно, был каким-то видным полководцем".* Пакінем адказы без каментарыяў.

Як ставяцца да ратнай славы ў іншых краінах? Да 40 працэнтаў ізраільцян не супраць выехаць за мяжу. Здавалася б, канец Ізраілю. Аднак 92 працэнты ізраільцян, уключаючы і тых, хто згодны па розных прычынах эмігрыраваць, на пытанне, ці гатовы яны са зброяй у руках абараняць гістарычную радзіму, адказваюць: "Гатовы!" **Духоўнае адзінства яўрэяў было б немагчымым, калі б яны пачалі забываць сваіх герояў і, што не менш важна, не адрадзілі сваю старажытную мову іўрыт.**

Брэсцкую цытадэль, паўтараю, здаюць ціха. Маўклівую здраду распазнаць цяжэй. Гандляры памяццю хочуць "лінію Сталіна-2" стварыць.

Здрадна маўчыць афіцыёз. Анямеў у паняверцы народ. Маўчыць нават Царква. Брэсцкая крэпасць — перш за ўсё мемарыяльныя могілкі. Сакральны лапік зямлі. Якія тут могуць быць гулі?! Спакой праху — аснова хрысціянскай веры. "Не аддавайце святыні псам!" — сказана ў Пісанні.

Дамо ператварыць крэпасць-герой у забаўляльны цэнтр, нас падбяруць чужыя рукі. Ужо назаўсёды. Разам з галоўным насельнікам Палаца Незалежнасці.

**Вячаслаў ДАШКЕВІЧ.**
*Мінск—Брэст—Мінск.*

ДА ВЕДАМА!

## Штрафы і пошліны ўзрастуць...

Сёння базавая велічыня — 130 тысяч рублёў. З 1 красавіка складзе 150 тысяч. Таму, адпаведна, з наступнага месяца штрафы і пошліны стануць большымі.

ДАРЭЧЫ

## Не разбагацееш...

*Двойчы гэтай вясной — у красавіку і ў маі ў бюджэтнікаў павялічыцца зарплата.*

Гэта звязана з павелічэннем тарыфнай стаўкі першага разраду, ад якой залежаць заробкі бюджэтнікаў. Але павышэнне будзе нязначнае. Таму што 1 красавіка тарыфная стаўка першага разраду павысіцца ўсяго толькі на 2 тысячы: з 260 да 262 тысяч рублёў, а 1 мая — з 262 да 275 тысяч рублёў.

ПАМЯЦЬ

## Прыхільнікі Барадуліна выдаюць кнігу яго апошніх вершаў

*У кнігу ўвайшло некалькі соцень вершаў, напісаных у 2011—2014 гадах.*

Самыя апошнія датуюцца 28 лютага 2014 года — за два дні да смерці дзядзькі **Рыгора.** Апроч вершаў, у кнігу ўвайшлі факсіміле апошніх рукапісаў, сёлетнія здымкі, а таксама інтэрв'ю, якое дзядзька Рыгор даў напярэдадні 24 лютага, свайго 79-годдзя, журналісту і літаратуразнаўцу **Сяргею Шапрану,** які, дарэчы, і склаў зборнік "У неба пехатою". Ідэю Шапрана падтрымаў вядомы бізнесмен і мецэнат **Павел Берагові́ч.**

Прэзентацыю зборніка плануецца прымеркаваць да саракавін па паэце, якія будуць 11 красавіка.

ЧУЛІ?

## У свеце расце колькасць смяротных прысудаў

Паводле звестак праваабарончай арганізацыі Amnesty International, смяротных пакаранняў паболела на 15 працэнтаў. Амаль 800 прысудаў прывялі ў выкананне ў 2013 годзе.

Справаздача праваабарончай арганізацыі Amnesty International засведчыла ўсплёск смяротных пакаранняў за кошт прысудаў, вынесеных у Іране і Іраку. Гэтак улады Ірана паведамілі пра 169 пакараных за мінулы год. Звесткі не ўлічваюць Кітай, бо інфармацыя пра смяротныя пакаранні ў гэтай краіне — дзяржаўная таямніца. Беларусь — апошняя краіна Еўропы, якая не ўвяла маратарый на найвышэйшую меру пакарання. У 2013 годзе ў Беларусі не быў выкананы ніводны смяротны прысуд.

ЭШЕЛОНЫ ВЛАСТИ

# Кто возглавит «Беллегпром»?

В последние годы концерну "Беллегпром" катастрофически не везет с руководителями. То одного отправят в отставку за вопиющий бардак и *"преступную безответственность",* то другого на взятке с поличным поймают. Один скандал громче другого! И размах взяток поражает. Шутка ли: у должностных лиц концерна, которые попали под прицел правоохранительных органов, на днях изъяли более миллиона долларов, золотые слитки, арестовали два автомобиля, три квартиры в Минске, кучу дорогостоящей бытовой и оргтехники. В Следственном комитете не исключают, что все это добро было нажито не честным путем, а при помощи взяток, которые *"председатель концерна "Беллегпром" и директор ОАО "Слонимская камвольно-прядильная фабрика" на систематической основе получали от представителей ряда субъектов хозяйствования за решение вопросов о поставках оборудования в рамках проводимой модернизации предприятий, входящих в структуру "Беллегпрома".*



**Михаил Сучков сегодня подсчитывает, кому и сколько остался должен.**

Сегодня в следственном изоляторе находятся не только экс-глава "Беллегпрома" **Михаил Сучков** и директор "Слонимской камвольно-прядильной фабрики" **Валентина Венсковская**. Задержаны также представители коммерческих структур, носившие взятки чиновникам.

Расследование уголовного дела продолжается.

Михаил Сучков пришел в "Беллегпром" в декабре 2012 года. До этого он руководил ОАО "Сукно", был директором хлопкопрядильной фабрики в Ветковском районе Гомельской области. За свою короткую бытность главой "Беллегпрома" успел поменять немало руководителей предприятий концерна.

До Сучкова "Беллегпром" возглавлял **Геннадий Вырко**. Народная молва приписывает ему родство с одним из нынешних вице-премьеров. В конце декабря 2012 года А.Лукашенко, посещая ОАО "Камволь", распорядился выгнать Вырко и его заместителя с работы — за бардак на предприятии.

Сейчас обязанности председателя концерна "Беллегпром" исполняет **Вячеслав Мирусин.** Он был зампредседателя концерна, курировал кожевенную и обувную отрасли, до этого руководил РУП "Гродненское производственное кожевенное объединение".

Кто возглавит "Беллегпром"? Есть информация, что Совмин внес в Администрацию президента предложение о назначении на эту должность гендиректора ОАО "Купалинка" **Николая Ефимчика**.

**Николай Ефимчик, возможно, будущий руководитель "Беллегпрома".**

ТЕМ ВРЕМЕНЕМ

## Эдуард НАРЫШКИН: «Легпром — это смесь бизнеса и искусства»

Как стало известно "Народной Воле", ряд директоров предприятий, входящих в концерн "Беллегпром", озвучили в Администрации президента и Совмине просьбу вернуть на должность председателя концерна **Эдуарда Нарышкина.** Мол, при нем в отрасли был "золотой век".

*— При Нарышкине и показатели были лучше, чем сейчас, хотя, когда он пришел, проблем тоже было немало,* — говорят про экс-главу "Беллегпрома". — *Нарышкин заботился об имидже концерна, всегда был открыт для общения, нормально реагировал на критику. К Эдуарду Михайловичу, в отличие от его предшественников, можно было в любое время зайти в кабинет и обсудить любые вопросы. А к некоторым руководителям концерна, которые пришли после него, дальше приемной попасть невозможно было! Директора предприятий просто не хотели обращаться в "Беллегпром" — благодаря "отличной" работе недавних руководителей концерн утратил кредит доверия*.

Стоит заметить, что Эдуард Нарышкин руководил "Беллегпромом" 7 лет — с 2002-го по 2009 год. И ушел по соглашению сторон. По слухам, из-за конфликта с кем-то из членов правительства.

Все это время Нарышкин без дела не сидел. Он успел поработать не только на разных должностях в частных компаниях, но и, скажем так, улучшить свои профессиональные качества: закончил магистратуру по бизнес-администрированию в Варшаве и теперь смотрит на мир глазами не только простого госуправленца, но и рыночника.

Сейчас Эдуард Нарышкин работает председателем наблюдательного совета одного из коммерческих банков Беларуси.

Рассматривалась ли после последних скандалов кандидатура Нарышкина на пост главы концерна? Однозначный и официальный ответ на этот вопрос получить непросто. Одни говорят, что Эдуард Михайлович не прошел так называемую обязательную спецпроверку. Другие — что его кандидатуру при помощи кулуарных рычагов якобы просто заблокировали. А третьи вообще утверждают, что якобы Нарышкин сам отказался от предложенной должности.

"Народная Воля" разыскала экс-главу "Беллегпрома" и уточнила, согласен ли он снова возглавить ведомство.

*"Легкая промышленность — родная для меня отрасль, и я внимательно слежу за тем, как она развивается и что там происходит,* — ответил Эдуард Михайлович. — *На мой взгляд, легпром — это смесь бизнеса и искусства. Мне кажется, я понимаю, какое место занимает легкая промышленность в народнохозяйственном комплексе, как должна позиционироваться в ЕЭП и при вступлении Беларуси в ближайшем будущем в ВТО — это будут нелегкие времена..."*

**Марина КОКТЫШ.**

### Из личного дела

*Эдуард Нарышкин родился в 1964 году, окончил Военно-инженерный Краснознаменный институт им.А.Ф.Можайского, Белорусский государственный экономический университет, Академию им.Л.Козминского (г.Варшава), ЕМВА, магистратуру по бизнес-администрированию.*

*Работал на руководящих должностях в ОАО "Бобруйсктрикотаж" (директор), Государственном концерне "Беллегпром" (председатель), ИООО "ТНК-БиПи Запад" (заместитель директора), УП "Спамаш" (гендиректор), РУП "Национальный центр обмена трафиком" (заместитель директора по инвестициям), ОАО "Альянс Ипотека" (Россия) (заместитель директора).*

*Был членом Совета Республики Национального собрания Республики Беларусь.*

**Эдуард Нарышкин знает многие секреты "Беллегпрома"...**

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

# Мертвая привязка

*(Окончание. Начало на 1-й стр.)*

На этом фоне можно предвидеть значительное падение российских дотаций белорусской экономике, которая без них, как известно, быстро обанкротится. Как отмечают эксперты, экономические санкции, которые вводят против российских компаний не только западные страны, но и все страны, выступившие против аннексии Крыма, могут затронуть российский бизнес и на территории Беларуси. В частности, у нас функционирует "дочка" "Газпрома" "Газпром трансгаз Беларусь". Россияне являются совладельцами Мозырского НПЗ. В банковской сфере российские "Газпром" и "Газпромбанк" являются владельцами контрольного пакета "Белгазпромбанка". Российский "Внешэкономбанк" является владельцем "БелВЭБа", страховой компании "Белвнешстрах", девелоперской структуры "Внешэкономстрой", акций обувной фабрики "Сивельга". Группе ВТБ принадлежит "Банк ВТБ (Беларусь)", "Сбербанку России" — "БПССбербанк". Дочерняя структура "Росатома" "Атомстройэкспорт" на российские деньги строит Белорусскую АЭС. Кредит предоставили российские банки. Тесные хозяйственные связи существуют между Белорусской железной дорогой и ОАО "Российские железные дороги", руководитель которой Якунин попал под западные санкции. И этот перечень далеко не полный.

Если экономические санкции будут весьма чувствительны для экономики России (а скорее всего именно этого надо ожидать), вроде бы решенный вопрос об оставлении в белорусском бюджете с 1 января 2015 года экспортных пошлин от продажи нефтепродуктов, вырабатываемых из российской нефти, повисает в воздухе. По мнению российского Минфина, удовлетворение всех требований Беларуси и Казахстана при создании Евразийского экономического союза может обойтись российскому бюджету в 30 млрд долларов. Огромная сумма, подарить которую Россия не может себе позволить, даже без учета затрат на инфраструктуру Крыма. Даже если Россия и согласится на возврат пошлин в белорусский бюджет, она, как считают эксперты, может резко увеличить налог на добычу полезных ископаемых и компенсировать выпадающие суммы за счет увеличения отпускной цены на нефть. А это 3,5—4 млрд долларов, которые ждет Лукашенко для финансирования предвыборной кампании.

Ситуация, в которой экономические санкции в отношении России наверняка бабахнут и по экономике ближайшего союзника, выглядит для белорусского вождя более чем щекотливой. С одной стороны, союзнические отношения с Россией — основной фактор сохранения его личной власти и поддержания видимости жизнеспособной экономики, и это подтверждает все большее количество российских военных самолетов на нашей земле. С другой стороны, Украина — второй после России экономический партнер Беларуси. К тому же белорусы, белорусский электорат тоже вполне привыкли к платежным картам систем Visa и Mastercard, как и к прочему западному комфорту. Однако выход из ситуации все-таки будет. В известную, конечно, сторону. Наша экономика, да и вся страна при Лукашенко, намертво привязались к России. И если что не так, Путин просто "вернет нас домой".

